

Жыве Беларусь!

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№137 (650) 14 ліпеня 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 501040 экз. Кошт у розніцу — 7 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Совет Министров Беларуси принял постановление "О порядке применения оружия, боевой техники и специальных средств при охране государственной границы Республики Беларусь".**

Как мы уже сообщали, Верховный Совет ранее принял законы о государственной границе и о пограничных войсках республики.

❑

**Председатель Верховного суда Республики Беларусь Владимир Каравай принял посла Аргентины в Беларуси Хуана Карлоса Алима.**

Встреча была знаменательной уже тем, что впервые в истории белорусского правосудия посол перед вручением верительных грамот об аккредитовании в Беларуси встретился с руководителем высшего судебного органа.

❑

**Абхазские войска продолжили вчера продвижение по направлению Сухуми.**

Установив контроль над близлежащими высотами, вооруженные силы Абхазии разгромили группировку грузинских войск за селом Шрома. Грузинские войска, понеся потери в живой силе и технике, отступили.

❑

**Не прибегать к силе для предотвращения референдумов в Нарве и Силламяэ 16 и 17 июля, признанных эстонскими властями неконституционными, пообещало Верховному комиссару СБСЕ по делам национальных меньшинств Максу Ван Дэр Стулу правительство Эстонии.**

❑

**Турция приняла решение построить атомную электростанцию.**

Как сообщается, реактор стоимостью порядка 5 млрд. долларов будет сооружен в местечке Аккую на Средиземноморском побережье. Станцию намечено сдать в эксплуатацию к 2000 году.

❑

**Президент Индии Шанкар Даял Шарма направился вчера с официальным визитом на Украину в рамках двухнедельного зарубежного турне по четырем странам.**

Он посетит также Турцию, Венгрию и Великобританию.

❑

**Более 130 человек погибли или пропали без вести в результате вчерашнего землетрясения и цунами на севере Японии.**

### Сиди дома, не гуляй?

**Похоже, что обменять "зайчики" на российские деньги сегодня можно только на "черном" рынке.**

У перекупщиков белорусский рубль дешевле российского на десять копеек.

Телеграмма Национального банка от 9 июля, предписывающая банкам производить такой обмен "без взимания комиссионного сбора", по мнению экспертов, носит чисто рекомендательный характер. Как сообщили нам в республиканском Сбербанке и Белпромстройбанке, российской налички у них практически нет...

Что ж, "черный" рынок у нас — единственная опора и отрада?..

**Анжела БЕЛУШ.**

### Доллар пока собирается с силами

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 1230 | 1280 |
| Немецкая марка | 720 | 752 |
| Английский фунт | 1727 | 1814 |
| Французский франк | 202 | 212 |
| Финская марка | 202 | 212 |

**За минувшую неделю "зеленые" в республике практически не подорожали.**

По прогнозам экспертов, валютный курс в июле будет более менее стабилен.

В России же доллар продолжает падать. На вчерашних торгах Московской межбанковской валютной биржи он шел уже за 1036 рублей, в Эстонии — за 1090.

**Антон ЧЕКОВ.**

### "А ты не летчик..."

**Так впору сегодня говорить про пилотов Белорусского объединения гражданской авиации.**

Основной парк машин, как сообщил главный инженер объединения А.И.Достик, находится на приколе, а пилоты сидят на "голых" окладах. Причина — нет средств на покупку дорогостоящего горючего. Уже 20 единиц техники ушло "на сторону", еще четыре проданы хозяйствам. Кроме того, около 40 самолетов и вертолетов "зарабатывают" деньги в Судане, Египте, Венгрии. Оставшаяся техника выполняет ежедневно 48 рейсов вместо ста семидесяти в прошлые годы.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Не ўсё так дрэнна*

# "Добра жыве той, хто шчыра працуе",

## — пераканаы старшыня калгаса "Гоцк" Салігорскага раёна Міхаіл Марыніч

**Андрэй НІКОЛЬСКІ**

Па фармальных прыкметах Міхаіл Марыніч — партакрат з партакратаў. У яго біяграфіі і пасады саўгаснага камісара, і вучоба ў Мінскай ВПШ, і загадванне аддзелам у Салігорскім райкаме. Ішоў пастаянна, як казалі некалі, у першых шарэнгах...

Але ўсё ж не пасады вызначаюць сутнасць чалавека. Міхаіла Марыніча ніколі не прыціскалі ідэалагічныя догмы, якія засушваюць мазгі і не дазваляюць мець уласную думку.

Цяпер Міхаіл Міхайлавіч старшынствуе ў калгасе "Гоцк", за пяцьдзесят кіламетраў ад раённага цэнтра. Там, за палескай рэчкай Лань, якую не да канца спляжылі меліяратары, заўсёды жылося нялёгка. Некалі палохала неабсяжная багна і бездарожжа, цяпер — чарнобыльскі бруд.

Палешукі не скараліся і не скараюцца перад хвалямі навал. Вёска Гоцк, на мой погляд, наогул унікальная. Хіба што суседнія — Хорастава і Чаланец — могуць вытрымаць параўнанне з ёю.

— У Гоцку, — апавядае старшыня калгаса, — вельмі шмат дзяцей. Тыповы склад сям'і — сем-восем чалавек. Кажуць, у гарадах радзін усё менш і менш, а ў нас, слава Богу, маладыя нічога не баяцца. Ну а самая прыкметная сям'я ў Іосіфа Фёдаравіча Ермаковіча. Ён бацька семнаццаці дзяцей. Як вам падабаецца?

— Падабаецца, але вымушаны асцярожна спытаць, а ці добра жывецца тым дзецям? І ў сям'і-рэкардсмене, і ў астатніх, як вы кажаце, тыповых?

— Не крывячы душою, — працягвае Міхаіл Міхайлавіч, — магу сцвярджаць, што нармальна жывецца і дзецям, і бацькам, безумоўна, з папраўкай на складанасці нашага шалёнага часу. Калі не спытаеш Ермаковіча, Юзік, як жывецца, ён адказвае: нармальна. Калгас, зразумела, дапамагае ўсім, чым можа. Я, не перабольшваючы, скажу, што Гоцк — асаблівая зямля. Чаму жывецца тут добра дзецям? Бо яны пераняді ад бацькоў любоў да гэтых рэчак, сенажацяў, палёў і нікуды, за рэдкім выключэннем, не хочуць ехаць.

Гоцкія людзі — вельмі працавітыя. Назаву лічбу — у дварах калгаснікаў на сённяшні дзень маецца сто пяцьдзесят коней. Пра вартасць гэтага памочніка распаўсюджвацца не трэба. Агароды тут заўсёды звышдагледжаны. Пасадзяць цыбулю — дык гэта ж цыбуля! Пасадзяць трускалкі — дык гэта ўсім ягадам ягада! І яе ніхто не панясе на базар — усё дзецям.

У Гоцку любяць коней, любяць і тэхніку. Я магу з упэўненасцю сказаць, што любы падлетак з 14—15 гадоў сядзе ў кабіну любога трактара і справіцца з ім не горш за дарослага. Галоўнае ў выхаванні дзяцей — праца з маленства, не знясільваючая, а разумная, канешне.

— Дык вам застаецца толькі радавацца?

— Правільна, радуюся, але і пакутую. У калгасе 80 механізатараў і 50 шафёраў. Больш нам не трэба. А маладых хлопцаў з дакументамі на гэтыя прафесіі ўдвая больш. Куды іх падзець? Над вёскай Гоцк рэальна навісла навала беспрацоўя. Выручае тое, што сем'ям зараз дазволена выдзяляць да гектара зямлі. Выкарыстоўваюць іх гоцкія людзі на ўсю катушку.

Рэдка якія сем'і не трымаюць кароў — тут нашкодзіла сучаснае будаўніцтва, калі хлеў ставяць за паўвярсты ад катэджа. Усяго ў Гоцку на 670 двароў больш чым 600 кароў. Трымаць рагуль няцяжка, на кожную асабістую карову выдзелена па 50 сотак пашы. Сенажаці таксама ёсць, больш чым па тры тоны выдзелена сена на карову. Вясною калгас закупіў у калгаснікаў сена на мільён рублёў. На фермах яго хапала, мы проста выступілі пасрэднікамі і прадалі корм тым гаспадаркам, дзе яго не хапала. І людзям карысці было больш, чым калгасу.

— Міхаіл Міхайлавіч, пры такой працавітасці ці прыжываецца ў Гоцку ідэя фермерства?

— У палешукоў свой погляд, даволі кансерватыўны. Я як старшыня вельмі паважаю тых, хто адважваецца на нялёгкую самастойную працу на зямлі і гатовы дапамагаць ім усім, чым магу. Знайшліся ў нас ахвотнікі — чатыры браты Аляхновічы, трое родных, адзін стрыечны. Прыгледзелі мы ім участак у 105 гектараў. І тут падняліся з пратэстам людзі: вы адзінкам зямліцу раздасце, а астатнія ні з чым застануцца... Гэта своеасаблівасць шматлюднай вёскі — усе фермерамі стаць не могуць. Але і я бачу свой пралік — не змог пераканаць працаўнікоў, усё ж фермерства — разумная з'ява. Пакуль прыйшлося здацца, хаця яшчэ гадоў дваццаць таму вакол Гоцка было мноства хутароў, гаспадарылі літаральна на купінах.

— Горад гоцкую моладзь не вабіць. На кароўніку працуе 30 чалавек, на адкормачным комплексе — 40, у паляводстве — 60, механізатараў — 80, а што рабіць астатнім?

— Самае цяжкае пытанне, бо ў Гоцку жыве каля 1200 чалавек працоўнага ўзросту. І я вымушаны звярнуцца ў рэспубліканскія службы, якія займаюцца праблемамі працы і беспрацоўя...

— Міхаіл Міхайлавіч, можа, вы спачатку раскажаце пра тое, што зрабілі самі, без дапамогі мінскіх начальнікаў...

— Згодзен. З уладкаваннем жанчын лягчэй. Калгас пайшоў на нешаблонны крок: мы садзейнічалі адкрыццю швейнага цэха ў Гоцку. Як мяне адгаворвалі ў Салігорску, маўляў, якія ў цябе там майстрыхі: такое сшыюць, ніхто глядзець не захоча, не тое, што насіць... Насмешнікаў мы не паслухалі і адкрылі ўсё ж цэх сумесна з народным прадпрыемствам "Калінка". Цяпер у ім працуе 100 жанчын і яшчэ 25 вучацца.

— Магу засведчыць, што гоцкая прадукцыя выглядае даволі сімпатычна, асабліва дзіцячае адзенне, курткі для моладзі, спартыўныя касцюмы. Што дае цэх калгасу?

— Што дае? Самае галоўнае — заняты 125 чалавек. Улічыце, на сённяшні дзень у Гоцку афіцыйна зарэгістравана 70 беспрацоўных. Другое — мы знялі праблему, як апрануць дзяцей, моладзь. Калі ласка, прадукцыю можна купіць у крамах. Магу пахваліцца, для калгаснікаў цэх пашыў, я лічу, цудоўную спецвопратку, дарэчы, у ёй не сорамна прайсціся і па гарадскіх вуліцах.

— Аднаго швейнага цэха для калгаса "Гоцк", відаць, мала?

— Адкажу так. На першым месцы ў нас фермы і палі. Вытворчасць малака, напрыклад, развіваецца дынамічна, са значнай прыбаўкай. Пра праблемы адкормачнага комплексу я скажу больш падрабязна крыху пазней. Што датычыць прамысловасці на вёсцы, то я яе прыхільнік. Некалі ў нашых месцах была цудоўная цагельня. Калгас мае намер адрадзіць яе. Падрыхтавана памяшканне для вытворчасці мэблі, у тым ліку і мяккай. Пачало дзейнічаць сумеснае беларуска-літоўскае малое прадпрыемства. Яно пачне выпускаць рэагент для калійшчыкаў, які вырабляецца з бульбы, а пакуль што купляецца ў замежжы за валюту.

— Вы пералічваеце зробленае і плануемае ў тэлеграфным стылі. Няўжо ўсё так проста робіцца? Захацелі і запусцілі вытворчасць?

— Ну, зараз нічога лёгкага няма. Канешне, прасцей сядзець у кабінеце, чакаць спрыяльнага надвор'я, выгадных здзелак, дапамогі выканкамаў, міністэрстваў... Я і мае памочнікі міласціны не чакаем. Дзейнічаем з усіх сіл, каб тут у Гоцку жылося і працавалася лепш. Рытм працы — бешаны. Шукаем і дапамогу. Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь па нашай акрузе Павел Шкапіч вывучыў сітуацыю і пераканаўся (ён сам працуе старшынёй калгаса "Новае Палессе"), што без дадатковых сродкаў нам не абысціся. Ён накіраваў ліст старшыні Дзяржкамітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва з просьбай выдзеліць калгасу "Гоцк" 20 мільёнаў рублёў на стварэнне новых працоўных месцаў.

— І якая рэакцыя?

— Разумею, што грошы знайсці цяжка, але пакуль што ад нас не адмахнуліся. Прыязджалі спецыялісты, вывучылі сітуацыю, пераканаліся, што гоцкае беспрацоўе — не выдумка... Чакаем дапамогі, без грашовых ін'екцый дзейнічаць немагчыма. Тым больш што іх мы не збіраемся праядаць на бягучыя патрэбы.

— А ці не лепш пашыраць аграрную вытворчасць, тыя ж фермы?

— Будзе і гэта, вось толькі разбяромся са старымі грахамі...

— Чыімі грахамі?

— А зараз вінаватых цяжка знайсці... І праекціроўшчыкі, і будаўнікі... Мяне можна ў адно імгненне вызваліць ад пасады з трэскам. За што? За тое, што пад Гоцкам ляжыць бомба знішчальнай экалагічнай сілы ў выглядзе гною і гноевай жыжы з адкормачнага комплексу. Мясцовасць у нас нізкая, былыя балоты. Комплекс пасадзілі на 70 сантыметраў ніжэй праектнага ўзроўню. Сістэма выдалення гною з першага года не працуе. Сховішчы перапоўнены. Зразумела, што і мы на нейкую чвэрць вінаваты, але першапрычына хаваецца ў памылках праектавання і будаўніцтва. Штодзённа працуюць пяць самых магутных трактароў на адвозцы гноевай жыжы. Толькі на праект рэканструкцыі трэба знайсці больш двух мільёнаў рублёў, а на ўсю рэканструкцыю — 235 мільёнаў. Вось што стрымлівае развіццё ферм.

— У чым вы бачыце выхад?

— Можна патрабаваць пакарання бракаробаў... Можна... Але лепш выправіць памылкі за кошт дапамогі калгасу. Не мы ж вінаватыя.

— Неяк мы заканчваем на песімістычнай ноце. А ці ёсць падставы для радасці, для аптымізму?

— Песімізму ў Гоцку няма. Хаця кожная раніца пачынаецца з праблем. Добра жыве той, хто шчыра працуе. А ў Гоцку працаваць умеюць.

*Прэс-канферэнцыі*

# В.Кебіч: "Мы ішлі да гэтага дагавора доўга і цяжка"

Пасля маскоўскай сустрэчы прэм'ераў трох славянскіх рэспублік Старшыня Саўміна Беларусі В.Кебіч сваю пазіцыю растлумачыў так: да 1 верасня трэба падрыхтаваць неабходныя дакументы, а гэта прыкладна два дзесяткі розных дагавораў і пагадненняў. Восенню яны толькі-толькі пачнуць працаваць. Ну а першы плён узаемадзеяння трох дзяржаў-суседзяў можна будзе ўбачыць ужо ў пачатку наступнага года.

Вячаслаў Кебіч заявіў, што "мы ішлі да гэтага дагавора доўга і цяжка". Тлумачачы гэта выказванне, прэм'ер-міністр сказаў, што ў рамках СНД ніхто не хацеў нікому ўступаць, кожны думаў толькі аб сваіх інтарэсах, часта грэбуючы агульнымі. Стала ясна, што такімі тэмпамі сапраўдны эканамічны саюз у рамках Садружнасці можна будзе стварыць вельмі і вельмі не скора. Адсюль і саюз трох рэспублік.

Гэты дагавор застаецца адкрытым для падпісання, але толькі тымі, хто згодны "прымаць правілы гульні без усякіх агаворак". І, відаць, саюз хутка пашырыцца.

Тлумачачы асобныя палажэнні дакумента, Вячаслаў Кебіч заўважыў, што стварэнне адзінай грашовай сістэмы зусім не азначае, што ўсе тры дзяржавы будуць у рублёвай зоне. Не забараняецца мець уласную валюту. Але ў гэтым выпадку ўстанаўліваецца яе афіцыйны курс адносна рубля, іншых валют.

На пытанне, што дасць саюз радавому жыхару Беларусі, Вячаслаў Кебіч адказаў:

— Расія прадае нам нафту па пэўнай цане. Далей мы павінны заплаціць высокую пошліну. Заплацілі. І ўвялі яе ў кошт выпушчанага намі тавару. Затым адпраўляем гатовую прадукцыю ў тую ж Расію. І зноў павышаем цэны. Вось гэтыя "накруткі" і робяць цэны ў магазінах ненармальнымі. Адмовімся ад іх, і адразу стане лягчэй.

Галоўную небяспеку для новага саюзу беларускі прэм'ер бачыць у магчымым умяшанні палітыкаў у эканамічныя праблемы. Таму ж Леаніду Кучме, паводле яго слоў, прыйшлося праявіць высокую грамадзянскую мужнасць, паколькі расійскі парламент наўмысна ці незнарок прыняў вядомае рашэнне па Севастопалю, якое вельмі ўскладніла абстаноўку на сустрэчы кіраўнікоў урадаў.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта Белінфарма, ці ўзгаднялася падпісанне заявы з кіраўнікамі трох дзяржаў, Вячаслаў Кебіч сказаў:

— Пытанне з Ельцыным узгоднена поўнасцю. Калі мы селі за стол перагавораў, быў званок з Іркуцка. Барыс Мікалаевіч цікавіўся ў Віктара Сцяпанавіча Чарнамырдзіна, як ідуць справы. Што датычыцца прэзідэнта Украіны, то ён катэгарычна за ўстанаўленне эканамічнага саюзу, але без уняцення ў яго нейкіх палітычных пытанняў. Цяпер што датычыцца маёй пазіцыі. Я атрымаў давер'е свайго парламента, я выканаў волю свайго парламента.

**Уладзімір ГЛОД, Белінфарм.**

# Самолеты летают, танки ездят, пушки стреляют...

**Сергей КРАПИВИН**

**Привычно оговорившись в названии страны, Министерство обороны которой он возглавляет — "Белоруссия", — генерал-полковник П.Козловский начал свое выступление перед журналистами с аргумента в пользу присоединения республики к договору о коллективной безопасности СНГ.**

— Стратегически мы за нейтралитет, за безъядерность, но тактически проще и дешевле строить национальные Вооруженные Силы, находясь в военном союзе с Россией, — сказал министр.

Далее — тезисно о ряде положений речи П.Козловского, о содержании его ответов на вопросы.

С начала года за всякого рода злоупотребления уволены 12 офицеров, возбуждено около 100 уголовных дел. При общей численности офицерского корпуса 26 тысяч человек это не много.

Некоторые должностные лица Контрольной палаты республики в отношении Министерства обороны ведут работу тенденциозно, преднамеренно ищут материалы для шельмования.

Деятельность коммерческих структур в системе МО — мера вынужденная, потому что бюджет министерства составляет 50 процентов от запрашиваемого.

Резолюция I съезда белорусов мира, посвященная военным проблемам республики, оскорбляет и унижает армию.

Опасность для общества представляет создание "Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў" добровольных народных дружин. В активе БЗВ — пьяницы, которых правильно уволили из Вооруженных Сил.

Процент этнических белорусов в офицерском корпусе достиг цифры 46, но искусственно ее не намечено повышать.

Белорусские добровольцы в миротворческие силы ООН посылаться не будут, потому что "синдром цинковых гробов" нам крайне нежелателен.

Экспортером вновь производимого вооружения и военной техники Беларусь не станет, поскольку у нас нет предприятий, которые бы выпускали завершенные образцы такой продукции.

Укомплектованность частей личным составом достигает 75—80 процентов.

Переобмундирование войск начнется со следующего года. Рота почетного караула наденет новую форму уже к концу нынешнего.

Первого июля в войсках начался летний период боевой учебы. Все идет нормально: самолеты и вертолеты летают, танки ездят, пушки стреляют. Армия боеготова.

Пересказав выступление на пресс-конференции министра обороны Республики Беларусь П.Козловского, мы воздерживаемся от комментариев. Пусть каждый читатель, ознакомившись с информацией, сделает свои выводы. Свои выводы, уверены, делает и время.



*Откровенными мыслями делится Иван КОРОТЧЕНЯ, исполнительный секретарь СНГ, народный депутат Беларуси*

# "Тройственный" союз. Шаг вперед?

Два сообщения, пришедшие с интервалом в несколько суток сначала из Стамбула, а затем из Москвы, никак не могли затеряться в потоке новостей. Во-первых, потому что касаются острых сегодня проблем экономической интеграции бывших советских республик, а во-вторых, прямо или косвенно ставят под сомнение итоги достигнутых в рамках СНГ договоренностей по созданию экономического союза, под которыми стоят подписи глав государств девяти стран - участниц Содружества.

Вкратце напомним итоги стамбульской встречи лидеров государств, входящих в Организацию экономического сотрудничества. В ней, как сообщалось, участвовали помимо Турции, Ирана, Пакистана и Афганистана также Азербайджан, Казахстан, Кыргызская Республика, Узбекистан, Таджикистан и Туркменистан. Единодушно принята декларация, в которой целью сотрудничества в ОЭС провозглашается обеспечение социального и экономического благополучия своих стран. В документе отмечается, что на основе принципов кооперации страны - участницы договорились о повышении роли свободного частного предпринимательства для ускорения процесса интеграции стран ОЭС в мировую экономику.

Среди конкретных проектов, одобренных в Стамбуле, назовем решения о развитии транспортной инфраструктуры и телекоммуникаций, научно-технической кооперации, либерализации торговли и устранении таможенных барьеров. Приоритетными задачами названы строительство дорог, которые обеспечат выход к морю странам, не имеющим морских границ, создание банка развития и торговли, института культуры, введение режима наибольшего благоприятствования в торговле, свободного передвижения капиталов и рабочей силы.

Участники встречи согласились открыть совместные координирующие органы ОЭС - авиационную и судоходную компании в Иране, страховую компанию - в Пакистане, банк торговли и развития - в Турции.

Оценивая результаты дискуссии в Стамбуле и подписанные в ходе встречи документы как "прочный фундамент для создания еще одного крупного экономического сообщества", президенты Казахстана Н. Назарбаев и Кыргызской Республики А. Акаев сочли необходимым подчеркнуть, что одним из немногих вариантов внешнеэкономических связей является "налаживание взаимовыгодных отношений между СНГ и ОЭС в интересах всех народов" и что для ОЭС может быть полезен некоторый опыт межгосударственных взаимоотношений в СНГ.

А что же в Москве? Здесь собрались премьеры трех славянских республик и, как полтора года назад в Беловежской пуще, недолго посовещавшись, решили принять совместное заявление. **Оно не содержит каких-то принципиально новых идей, необычных подходов или неожиданных предложений. Все, о чем в нем говорится, изложено в проекте Договора о создании Экономического союза.**

Вчитываясь в текст документа, замечаешь, что многие проблемы, вокруг которых до последнего времени не утихали горячие споры и ломались политические копья, премьерами трех республик благополучно решены. Даже те, по которым одна из стран упорно и последовательно отстаивала свою особую позицию, в частности о создании координирующих органов.

Принципиально важным представляется признание руководителями правительств трех славянских республик необходимым условием интеграции достижение адекватности экономических систем. Это означает снятие тарифных и нетарифных ограничений в торгово-экономических отношениях, создание таможенного союза с общей таможенной территорией, а впоследствии и общего рынка товаров, услуг и капиталов. Симптоматично и то, что, кажется, впервые в практике СНГ в тексте официального документа есть эпитет "жесткий", причем использован он применительно к самой важной и тонкой сфере взаимоотношений - финансовой. Предполагается жестко согласовывать политику в области кредитной и наличной эмиссии вплоть до установления единого предела дефицитов консолидированных бюджетов.

**(Окончание на 2-й стр.)**

*Теплые строки*

## Браво, Мария!

Кто знает, что сталось бы с сельской участковой больницей деревни Мотоль Ивановского района теперь, когда исчезли все лекарства, а купить медоборудование не за что, если бы не врач Мария Демкович. Сейчас она проживает в США, ведет там лечебную практику, но о родном Мотоле не забывает. В первую очередь интересуется, чем помочь больнице, и аккуратно поставляет медикаменты.

Стыдно признаться в собственной бедности, но таково положение всех ФАПов и сельских клиник, они задыхаются от беспомощности. Наверху просить не у кого, снизу ее ждать не от кого — больной сам ищет спасение. Поэтому мы очень благодарны своей землячке за поддержку. Сейчас второй этаж больницы переоборудован под санаторий. Это тоже ее идея, а осуществить ее помог профком.

**Коллектив медиков Мотольской сельской больницы.**

